Міністэрства інфармацыі разблакавала сайт “Народнай Волі” www.nv-online.info. Заходзьце і заставайцеся з намі!

№ 3 (4767)

13 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

## Ці выйшаў з турэмнай бальніцы Аляксандр Фядута?

***Марына Шыбко** распавяла «Народнай Волі”, што ў гэтым годзе пакуль не атрымала ніводнага ліста ад мужа.*

Нагадаем: у мінулым годзе ў Мінскім абласным судзе быў вынесены прысуд па справе *«аб змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады»*.

На лаве падсудных знаходзіліся палітолаг, журналіст і літаратуразнаўца **Аляксандр Фядута**, кіраўнік Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, юрыст **Юрый Зянковіч**, супрацоўніца яго мінскага офіса **Вольга Галубовіч**, актывіст і дальнабойшчык **Дзяніс Краўчук**.

У выніку Юрый Зянковіч атрымаў 11 гадоў зняволення, Аляксандр Фядута і Рыгор Кастусёў – па 10 гадоў, Дзяніс Краўчук і Вольга Галубовіч – па 2,5 года пазбаўлення волі.

Аляксандр Фядута быў накіраваны адбываць пакаранне ў Магілёўскую калонію, але патрапіў у турэмную бальніцу амаль адразу пасля пераводу ў папраўчую ўстанову: абвастрыліся праблемы з сэрцам, з’явіліся ацёкі.

*“Апошні ліст ад мужа быў 26 снежня мінулага года*, – кажа **Марына Шыбко**, жонка Аляксандра Фядуты. – *Тады ён паведаміў пра свае праблемы са здароўем і пра тое, што з турэмнай бальніцы выйдзе напачатку гэтага года. Таму, мяркую, Аляксандр ужо ў атрадзе.*

*У лістах муж таксама распавёў, што ў год дазволена перадаваць дзве кніжныя бандэролі, у кожнай з якіх не больш за пяць кніг. Гэта яго вельмі засмуціла, бо дзесяць кніг у год – вельмі мала. Ён напісаў, над чым яшчэ збіраецца працаваць, таму трэба будзе замаўляць пэўныя кнігі...”*

Па словах Марыны Шыбко, яе не здзівіла, што муж трапіў у турэмную бальніцу.

*“У яго, як вядома, яшчэ ў СІЗА былі досыць вялікія праблемы са здароўем, нават кропельніцы ставілі*, – адзначае суразмоўца. – *А зараз, відаць, хваробы абвастрыліся. У апошнім лісце Саша напісаў, што дашле мне спіс лекаў, якія яму парэкамендуюць дактары, але, як ужо казала, у гэтым годзе ніякіх паведамленняў ад яго пакуль не атрымлівала. Чакаю...”*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Судебный процесс по делу Юрия Чижа и Владимира Япринцева закрыли

Об этом попросил гособвинитель, мотивировав тем, что в постановлении о привлечении Чижа в качестве обвиняемого и материалах дела о при материалах уголовного дела имеется информация для служебного пользования, которая не может подлежать разглашению.

**Юрий Чиж и Владимир Япринцев** не выразили протеста по поводу ходатайства прокурора, оставив этот вопрос на усмотрение суда.

Валерий Есьман принял решение провести разбирательство по громкому уголовному делу в закрытом судебном заседании.

Как сообщала «Народная Воля», Юрий Чиж подъехал к суду почти за 40 минут до начала процесса.

Всех, кто шёл на процесс к Чижу, на входе в здание суда записывали в специальный журнал, тщательно сверяя паспортные данные.

Юрий Чиж перед началом суда шутил с адвокатами и теми, кто пришёл его поддержать. Он неплохо выглядел, улыбался и был в явно неплохом расположении духа.

Когда Юрий Чиж в начале сентября минувшего года вышел на свободу, прошёл слух, что ему изменили меру пресечения на домашний арест. Но это неправда — как выяснила «Народная Воля», бизнесмен находится под подпиской о невыезде и надлежащем поведении. По некоторым инкриминируемым статьям он получил помилование.

Бывший партнер Чижа по бизнесу **Владимир Япринцев** в суд пришёл буквально за 10 минут до начала заседания. Бывшие друзья находились в разных концах коридора суда, общаясь со своими адвокатами. Друг с другом они даже не здоровались.

Поддержать Владимира Япринцева пришёл его друг, довольно медийная личность бизнесмен **Николай Чукисов**. Правда, в зал заседания он не пошел, потому что проходит по данному делу свидетелем.

И Владимир Япринцев, и Юрий Чиж говорят: *«Правда на моей стороне»*.

Кто из них прав, в конце концов, решит суд. Чем закончится судебный процесс и останется ли Юрий Чиж на свободе – варианты ответов на эти вопросы могут быть совершенно разные…

Кстати, как прозвучало в суде, Юрий Чиж находился под стражей дважды: с 11 марта по 14 сентября 2016 года, и с 15 марта по 9 сентября 2022 года.

*«Намерен идти до конца,* — сказал Юрий Александрович «Народной Воле». – *Но чем все закончится не знает никто. Надо всё пройти…»*

Если Чиж находится на воле, может, нужно было воспользоваться возможностью и уехать из страны куда подальше?

*«А зачем?* – отвечает вопросом на вопрос известный бизнесмен. – *У меня было много возможностей уехать, но зачем мне куда-то бежать?»*

Как сообщала «Народная Воля», дело Чижа ведет известный судья **Валерий Есьман.**

**Марина КОКТЫШ.**

ВЕРДЫКТ

## Экс-кіраўніка Мінлясгаса асудзілі на 7,5 года калоніі

Былы міністр лясной гаспадаркі **Віталь Дрожжа** атрымаў 7,5 года калоніі. Яго прызналі вінаватым у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. Прыгавор 12 студзеня вынес Мінскі гарадскі суд. Паводле абвінавачання, Дрожжа атрымліваў хабар ад заснавальніка і дырэктара замежнай камерцыйнай арганізацыі з кастрычніка 2020 года да красавіка 2022 года. А за гэта даваў указанні падначаленым і лясгасам закупляць сушыльныя комплексы для сушкі пілапрадукцыі толькі на ўмовах растэрміноўкі. Пры гэтым ён ведаў, што на такіх умовах прадукцыю пастаўляла толькі кампанія хабарадавальніка.

Як высветлілася на судзе, ў схеме ўдзельнічалі сваякі кіраўніка замежнага ТАА, сваякі экс-міністра, а таксама работнікі, якія знаходзяцца ў службовай залежнасці ад іх. Але калі вы думаеце, што хабар гэты грошы, прынесеныя чыноўніку ў канверце, то гэта толькі фінальны этап схемы.

Згодна агучанай ў судзе інфармацыі, схема перадачы грошай была куды больш складанай.

З разліковага рахунка замежнага інвестара на рахунак пэўнай фірмы пералічваліся сродкі ў якасці перадаплаты. Пры гэтым інвестар дакладна ведаў, што працы і паслугі фірма па заключаным дагаворы выконваць не будзе, паколькі не было і адпаведных заявак. Пасля інвестар рыхтаваў ад свайго імя лісты аб вяртанні грошай, пералічаных у якасці перадаплаты, паколькі паслугі не былі аказаны. Вось толькі вярталіся грошы ўжо наяўнымі. Бухгалтар ЗАТ перадавала іх дырэктару замежнага ўнітарнага вытворча-гандлёвага прадпрыемства. Тая, ў сваю чаргу, фармавала пэўныя сумы і перадавала іх пляменніку інвестара. А той аддаваў грошы сястры Віталя Дрожжы, якая перадавала іх экс-міністру.

Згодна з матэрыяламі справы, па такой схеме грошы перадаваліся тры разы – па 10 тысяч долараў. Яшчэ адну частку экс-міністр не атрымаў, бо сястра, якая павінна была іх прывезці, проста забылася іх дома.

Віталь Дрожжа займаў пасаду кіраўніка Мінлясгаса з 2018 года. Яго затрымалі ў красавіку 2022 года, а ў маі ён быў звольнены ў сувязі з учыненнем правіны, несумяшчальнай са знаходжаннем на дзяржаўнай службе.

**Іван ШАЎЛЮК.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД



Андрей ДМИТРИЕВ,
экс-кандидат в президенты Республики Беларусь

## Останется только партия власти. Других не будет

Декабрьское обещание Александра Лукашенко о том, что в Беларуси останутся только партии, соответствующие *«основным принципам внутренней и внешней политики»* государства, обрело плоть. Накануне нового года опубликован законопроект о политических партиях и общественных объединениях.

Цель изменений скрыть невозможно – к первому в истории страны Единому дню голосования 24 февраля 2024 года (будут выборы всех депутатов сразу – от сельских до парламентских) не должно остаться никаких оппозиционных партий.

Что это даст власти? Оппозиция не сможет выдвигать кандидатов в депутаты по самой простой процедуре – от партийных структур. Заметим, такое выдвижение практически невозможно заблокировать решением избирательной комиссии. В отличие от выдвижения путем сбора подписей – тут уж избирательные комиссии поднаторели признавать нормальные подписи недействительными. Также не будет возможности партийного выдвижения в состав избирательных комиссий и наблюдателей.

Это реакция власти на испуг, пережитый в период избирательной кампании 2020 года.

Надежда теперь – на абсолютно стерильные «выборы».

Как будут уничтожены оппозиционные партии?

Многие обращают внимание на повышение минимальной численности учредителей – с 1000 человек до 5000. Надежда, что оппозиционеры не наберут столько героев, отважившихся подать в Минюст свои персональные данные.

Но я бы сделал акцент на более драконовской норме законопроекта. Предлагается, чтобы политическая партия имела свои организационные структуры не менее чем в трети районов каждой области. Создать структуры в таком количестве – куда ни шло. Но кто им даст в аренду помещения под юридический адрес? Вы таких героев в районах знаете? А не будет юрадресов – не будет государственной регистрации. Да и финансово это не дешево. Даже если считать аренду 50 долларов в месяц, то за год надо будет заплатить по всей стране порядка 250.000 долларов.

Даже странно, почему авторы закона не ограничились одной этой мерой. Можно было и количество учредителей не повышать.

Что получим на выходе в случае принятия предложенных поправок?

Оппозиционных партий не будет в Беларуси никаких. Останется де-факто одна «партия власти», разделенная де-юре на две-три зарегистрированных, кому дозволят иметь арендованные помещения в районах.

Потому что условно «левая» КПБ и условно «правая» ЛДП в нынешней системе координат ничем друг от друга не отличаются. Не важно, что там записано в их программах, их единственная функция – поддерживать с разных сторон решения Лукашенко.

Таким образом, в 2024 году Беларусь завершит переход к однопартийной системе. А чем такая система закончилась 30 лет назад – мы хорошо помним.

З НАГОДЫ

## 9 год пасля вянчання...

*Вольга Севярынец распавяла пра сваё маленькае сямейнае свята.*

Нагадаем, што палітык **Павел Севярынец** быў затрыманы 7 чэрвеня 2020 года. Яму было прад’яўлена абвінавачванне па ч.1 арт.13 і ч.2 арт.293 Крымінальнага кодэкса – Падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках.

У выніку П.Севярынец асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Зараз ён ў Шклоўскай калоніі.

*“Зімовы сезон самы багаты ў нашай сям’і на святы*, – распавяла **Вольга Севярынец,** жонка палітыка. – *На гэтым тыдні была гадавіна нашага з Пашам вянчання – 9 год, як мы разам.*

*Заходзім на юбілейнае кола! Мару, што зробім на дзясятую ці якую Бог дасць гадавіну аднаўленне сужэнскай клятвы, як у амерыканскіх фільмах. Запросім святара, які нас вянчаў, родных і сяброў і будзем весяліцца.*

*З гэтых 9 год Паша каля года правёў на сутках і больш двух год па турмах. Мы шмат працавалі, шмат аддавалі, шмат атрымлівалі. Нарадзілі двух цудоўных хлопчыкаў Янку і Францішка. Кахалі, былі шчырымі, рабілі, што маглі, прымалі выклікі, станавіліся лепш і згаршаліся. І заўсёды былі разам – “у шчасці разам, разам і ў горы, па самыя берагі”.*



*Плёнам нашай гісторыі стаў і каляндар на 2023 год, які Паша малява́ў, а мы выдалі, яшчэ застаюцца асобнікі, бо мы зноў дадрукавалі каляндар па просьбах людзей, то запрашаю, хто яшчэ не мае, адзначыцца ў каментарах ці напісаць мне, альбо замовіць праз Кроплю.бай”.*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЛІКБЕЗ

## Гладкая зарана пракрычала «Ура!»

*Дзяржаўная прапаганда захлынулася...*

“Особенно порадовали поправки (*у закон аб грамадзянстве,* – **Заўв.**) о возможности утраты белорусского гражданства, приобретенного по рождению, в связи с наличием вступившего в законную силу приговора суда Беларуси, подтверждающего участие данного лица в экстремистской деятельности или причинение им тяжкого вреда интересам Беларуси, если такое лицо находится за ее пределами. Вот тут хочется просто «ура!» кричать и аплодировать стоя», – напісала ў “СБ” небезвядомая прапагандыстка Людміла Гладкая.

Між тым толкам у прынятым законе яна не разабралася. Таму што «в связи с вступившим в законную силу приговора суда» на дадзены момант ніхто аўтаматычна грамадзянства не пазбавіцца. Ні Святлана Ціханоўская, ні Павел Латушка, ні Валерый Цапкала, ні Аляксндра Герасіменя, якую ўжо завочна асудзілі да 12 гадоў калоніі… Ніхто.

Таму што ні адзін закон не можа супярэчыць Канстытуцыі. А артыкул 84 Асноўнага закона нашай краіны вызначае, што прыняццё ў грамадзянства і спыненне грамадзянства гэта кампетэнцыя не суда, а прэзідэнта.

Акрамя таго, ніхто не выключаў з Крымінальнага кодэкса артыкул 9, у якім выкладзены адзін з асноўных прынцыпаў крымінальнага правасуддзя. Цытуем:

*Артыкул 9. Дзеянне крымінальнага закона ў часе*

*1. Злачыннасць і пакаральнасць дзеянняў вызначаюцца законам, які дзейнічаў **падчас здзяйснення гэтых дзеянняў**. Часам здзяйснення злачынства прызнаецца час здзяйснення грамадска небяспечных дзеянняў (бяздзеяння) незалежна ад часу наступстваў.*

*2. Закон, які ліквідуе злачыннасць дзеянняў, змякчае пакаранне ці іншым чынам паляпшае становішча асобы, якая ўчыніла злачынства, мае зваротную сілу, гэта значыць распаўсюджваецца на асоб, якія ўчынілі адпаведнае дзеянне да ўступлення такога закона ў сілу. У тым ліку – на асоб, якія адбываюць пакаранне або якія адбылі пакаранне, але маюць судзімасць. З дня ўступлення ў сілу закона, які ліквідуе злачыннасць дзеі, адпаведнае дзеянне, здзейсненае да яго ўступлення ў сілу, не лічыцца злачынным. Калі новы крымінальны закон змякчае пакаранне за дзеянні, за якія асоба адбывае пакаранне, суд прызначае пакаранне ў адпаведнасці з санкцыяй новага крымінальнага закона.*

*3. Закон, які ўсталёўвае злачыннасць дзеянняў, узмацняе пакаранне або іншым чынам пагаршае становішча асобы, якая ўчыніла гэтае дзеянне, **зваротнай сілы не мае**.*

*4. Калі закон, які дзейнічаў падчас здзяйснення злачынства, быў адменены або зменены і ліквідуе злачыннасць гэтых дзеянняў, змякчае пакаранне ці іншым чынам паляпшае становішча асобы, якая ўчыніла злачынства, але да часу расследавання крымінальнай справы або разгляду справы ў судзе ўступіў у сілу больш строгі крымінальны закон, прымяняецца больш мяккі прамежкавы закон.*

Прасцей кажучы, па крымінальных справах дзейнічае прынцып: закон, які пагаршае стан асуджанага, зваротнай сілы не мае. І, наадварот, калі пакаранне змягчаецца, то закон распаўсюджваецца і на злачынствы, здзейсненыя да яго прыняцця.

Закон, якому так горача і стоячы апладзіруе адыёзная Людміла Гладкая, уступіць у сілу толькі праз паўгода. А значыць і будзе распаўсюджвацца толькі на злачынствы, здзейсненыя праз паўгода.

Між тым справы супраць лідараў беларускай палітычнай эміграцыі, якіх будуць судзіць завочна, ўжо накіраваны ў суд. На 17 студзеня прызначаны пачатак разгляду справы супраць Святланы Ціханоўскай, Паўла Латушкі, Вольгі Кавальковай, Марыі Мароз і Сяргея Дылеўскага. Наколькі вядома, іх абвінавачваюць па шэрагу артыкулаў Крымінальнага кодэкса: у прыватнасці, артыкул 130 (Распальванне варожасці), 191 (Перашкода ажыццяўленню выбарчых правоў), ч. 2 арт. 292 (Падрыхтоўка да захопу будынкаў і збудаванняў), 356 (Здрада дзяржаве), 382 (Самавольнае прысваенне звання ці ўлады службовай асобы) і шэрагу іншых.

Таксама ўжо перададзена ў суд справа супраць Валерыя Цапкалы. Былому паслу Беларусі ў ЗША, стваральніку і быламу кіраўніку Парка высокіх тэхналогій інкрымінуюць ажно дванаццаць артыкулаў Крымінальнага кодэкса: і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, і хабар, і стварэнне экстрэмісцкага фарміравання…

Калі Людміла Гладкая ўжо рыхтуе тэкст з апладысментамі ў чаканні вынясення прыгавору і пазбаўлення грамадзянства, то гэта марная справа, бо прыдзецца перапісваць. Дзеянне закона, які так яе ўзрадаваў, пачнецца толькі праз паўгода і будзе распаўсюджвацца на дзеянні, здзейсненыя праз паўгода. Таму не трэба зноў і зноў пераказваць тое, што было ў 2020-м годзе, аздабляючы падзеі ўсё больш фантасмагарычнымі дэталямі. Да прынятага закона гэта проста не мае ніякага дачынення. Нават дзіўна, што чалавек, які раней працаваў у міліцэйскай газеце, не ведае азоў, не ведае прынцыпаў, на якіх грунтуецца заканадаўства.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

SOS!

# «Народная Воля» змагаецца...

28-ы год "Народная Воля" – на інфармацыйным полі Беларусі.

28-ы год – штодзённая барацьба за выжыванне.

28-ы год газета, якая нясе людзям **ПРАЎДУ**, – костка ў горле ўлад.

Вось біяграфічная хроніка незалежнага выдання:

Выхад першага нумара газеты – 11 ліпеня 1995 года.

1 кастрычніка 1995 года друкуецца ліст галоўнага рэдактара:

*"Шаноўныя чытачы!*

*Дарагія прыхільнікі "Народнай Волі"!*

*Я пішу гэтыя радкі ў суботу, калі за акном лье халодны восеньскі дождж. Але на душы ў мяне цёпла і светла. Прыўзняты настрой таму, што нарэшце здзейснілася даўняя мара. І не толькі мая, а, спадзяюся, і ўсіх, хто заклапочаны лёсам нашай шматпакутнай Беларусі, хто робіць усё для таго, каб хутчэй скінуць з яе абсягаў шэрую калючую коўдру ўдушлівай таталітарна-камуністычнай сістэмы, хто скіроўвае актыўныя намаганні на ўсталяванне сапраўды дэмакратычнага ладу, жыцця па людскіх законах, а не па законах воўчай зграі.*

*З сённяшняга дня газета "Народная Воля" пачынае свой новы адлік – выходзіць як штодзённае выданне.*

*Першая рэспубліканская штодзённая незалежная, недзяржаўная газета! Шчаслівай будучыні табе, наша ластаўка!.."*

Лётаць бы і лётаць "нашай ластаўцы", ды не паспела яна стаць на крыло, як ужо 10 кастрычніка раздаўся смяротны выстрал. Нечаканая тэлефанаграма кіраўніцтва выдавецтва "Беларускі Дом друку": **чарговы нумар друкавацца не будзе, дагавор, заключаны на чацвёрты квартал, скасоўваецца.**

Зразумела, вышэйшая ўлада больш не можа цярпець газету, якая з першых нумароў заняла адкрытую і чэсную пазіцыю. А як жа з дэмакратыяй? З памятным абяцаннем Аляксандра Лукашэнкі: *"Калі я стану прэзідэнтам, прэса будзе свабоднай"?*

Нішто не дапамагло – ні тэлеграма на імя А.Лукашэнкі, які стаў прэзідэнтам і да якога рэдакцыя звярнулася з настойлівай просьбай прыняць экстранныя меры па аднаўленні законнасці і забяспячэнні выхаду газеты. Спатрэбіліся вялікія высілкі, каб чарговыя тры нумары "Народнай Волі" былі адрукаваны на базе мінскай паліграфічнай фабрыкі "Чырвоная зорка".

І тут – канчатковая блакада! Цэрберы з вышэйшых паверхаў улады выкруцілі рукі дырэктару фабрыкі "Чырвоная зорка" У.Целешу і "Народную Волю", якая не парушыла ніводнага закона, выкінулі і з гэтай друкарні.

26-ы нумар газеты быў адтыражаваны ў... Літве. Пацягнуліся невыносна цяжкія эміграцыйныя дні з лістапада 1995-га па ліпень 1996 года.

Вяртанне на Радзіму выпакутавалі, але ў дзяржаўныя друкарні шлях быў закрыты. Выручыла прыватнае прадпрыемства "Мэджык".

Не доўга музыка іграла. Лігаральна праз тры месяцы гнусны наезд на "Мэджык" і "Народнай Волі" нічога не заставалася, як у чарговы раз апынуцца ў Вільнюсе. Толькі 19 лістапада 1997 года аднавілася друкаванне газеты на сабраным з металалому станку таго ж "Мэджыка". Крыху пазней удалося вярнуцца ў "Чырвоную зорку".

Памятаеце, што адбывалася ў тыя часы ў нашай краіне? Палітычная сцюжа чаргавалася больш-менш спакойным надвор'ем і нават кароткімі перыядамі адлігі. Праўда, для "Народнай Волі" фактычна нічога не мянялася – затрыманні адрукаваных тыражоў, вобыскі, суды, штрафы... У другой палове 2005 года ўлады пайшлі на самую жорсткую дыскрымінацыю газеты. 28 верасня на працягу літаральна некалькіх гадзін рэдакцыя атрымала факсы ад "Белсаюздруку", "Мінгарсаюздруку" і ад друкарні "Чырвоная зорка" – усе ў адначассе разрывалі супрацоўніцтва з "Народнай Воляй". А перад гэтым – вырак суддзі Ленінскага раёна г.Мінска Любові Валевіч аб спагнанні з рэдакцыі газеты 100 мільёнаў рублёў (!), у эквіваленце прыкладна 50 тысяч долараў. У такую фантастычную суму вылілася пакаранне за публікацыю, звязаную з расследаваннем закулiснага супрацоўніцтва з іракскім дыктатарскім рэжымам Садама Хусейна Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі на чале з сумнавядомым С.Гайдукевічам.

Улады разлічвалі на тое, што рэдакцыя не здолее выстаяць, калектыў супрацоўнікаў зломіцца, саступіць у барацьбе за высокія ідэалы. У адказ 30 верасня 2005 года на першай старонцы "Народнай Волі" быў надрукаваны Адкрыты ліст пад загалоўкам **"На калені не станем!"**. У гэтым жа нумары даваўся адказ на пытанне, чаму газету так не любяць улады.

*"Таму, што рэгулярна падымаем тэму "эскадрона смерці", знікнення вядомых людзей – Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага? Скажыце, а Шэйман, маўчаў бы, калі б прапаў нехта з яго самых блізкіх? А Лукашэнка? А Навумаў? А Сівакоў? А Паўлічэнка?*

*"Народная Воля" зачапіла Гайдукевіча? Дык у свеце і не такіх выцягваюць "за вушка ды на сонейка". Вунь дыпламатаў ААН цягаюць за іракскую нафту! А колькі Ліберальна-дэмакратычная партыя на чале з тым жа Гайдукевічам атрымала квот ад тырана Хусейна? Калі верыць інфармацыі, змешчанай на сайтах амерыканскага ўрада, дык больш чым на шэсць мільёнаў барэляў.*

*Праз каго, якіх аператараў пампавалася "чорнае золата", колькі грошай у выглядзе так званых адкатаў трапіла на асабістыя рахункі дыктатара, колькі засталося ў кішэнях яго кліентаў?*

*Пытанні такога кшталту мы маем права задаць і спадару-таварышу Гайдукевічу. Але лепш, каб адказы на іх яго папрасіў пракурор..."*

Да сённяшняга дня грамадскасць не пачула ад пракурораў і суддзяў адказу на гэтае і іншыя пытанні (напрыклад, ці сплаціў С.Гайдукевіч адпаведныя падаткі?). А ў тыя драматычныя дні на старонках аднаго з нумароў газеты з'явілася шапка: **"Народная Воля" – у смяротнай небяспецы!"** Каб ўратаваць выданне, на гэты раз было вырашана друкаваць газету у Смаленску, за некалькі сотсен кіламетраў ад Мінска.

Аднавіць свае законныя правы "Народнай Волі" пашчасціла толькі праз многа гадоў. Заключыўшы па-новаму дамову з "Беларускім Домам друку", "Белсаюздрукам" і "Мінскгарсаюздрукам", калектыў рэдакцыі жыў спадзяваннямі, што, нарэшце, скончыўся тэрор у адносінах да свабоднага слова. І падумаць не маглі, што наперадзе чакаюць яшчэ больш жудасныя выпрабаванні. Асабліва востра адчулі гэта напрыканцы 2020 года.

З чым звязана чарговае паляванне ўлад на незалежную прэсу – можна не тлумачыць, усе ведаюць. Не будзем каментаваць паасобку рэпрэсіўныя дзеянні ў адносінах непасрэдна да "Народнай Волі" – на суд чытачоў прадстаўляем шэраг дакументаў, якія сведчаць пра няўмольнае змаганне рэдакцыі за права выдаваць газету ў друкаваным выглядзе. Заўважым, без усялякіх падстаў і нават без папярэдняга паведамлення нумар "Народнай Волі" за 21 жніўня 2020 года не быў адтыражаваны ў "Беларускім Доме друку", які напрамую падпарадкоўваецца Кіраўніцтву справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Дамова з рэдакцыяй была скасавана як быццам з-за таго, што *"зламаўся друкарскі станок"*. Трэці год пайшоў, а праблема так і не вырашана. Нягледзячы на тое, што ўлады любяць паўтараць – "у нас свабода слова". Якая ж гэта свабода, калі такая жудасная дыскрымінацыя "Народнай Волі".

Няма сэнсу ў гэтым плане нешта дапаўняць. Шаноўныя чытачы, перад вашымі вачамі ксеракопіі некаторых дакументаў, якія нас і, вядома ж, вас не могуць радаваць. Але шчыра скажам: народавольцы не намераны здавацца, будзем змагацца і далей за нашу дэмакратычную ластаўку. Чарговы крок – **рыхтуем іск у суд з тым, каб па закону прымусіць "Беларускі Дом друку" аднавіць дагавор з УП "Народная Воля" на друкаванне газеты.** Беларусь не можа заставацца без адзінага незалежнага грамадска-палітычнага выдання. Прыхільнікі свабоднага слова маюць права чытаць актуальныя матэрыялы газеты не толькі ў фармаце PDF-версіі, а і ў друкаваным выглядзе.

***"Народную Волю" выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей!***

*Мы служым не ўладзе.*
*Мы служым не партыям.*
*Мы служым не алігархам.*
*Мы служым не апазіцыі.*

*Мы служым свайму сумленню.*
*Мы служым Свабодзе Слова.*
*Мы служым Дэмакратыі,*
*якая на першае месца ставіць*
*сілу закона, а не закон сілы.*
*Мы служым Чалавеку, які мае*
*не толькі абавязкі, але і правы.*
*Мы служым Вам, шаноўныя чытачы!*
*Мы служым роднай Беларусі!*



Авг 2020 17:08 ДомПечати +375172928111 Стр: 1

100356240

КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКІ ДОМ ДРУКУ»
УНП 100356240, АКПА 05905792
пр-т Незалежнасці, 79/1, 220013, г. Мінск
тэл. +375 17 287 17 03, факс +375 17 331 91 15
e-mail: bdp@domdruku.by
р/р BY02BLBB30120100356240001001
у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанк» па г. Мінску і Мінскай вобласці, БІК BLBBBY2X,
вул. Калектарная, 11, г. Мінск

УПРАВЛЕНИЕ ДЕЛАМИ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Республиканское унитарное предприятие
«ИЗДАТЕЛЬСТВО «БЕЛОРУССКИЙ ДОМ ПЕЧАТИ»
УНП 100356240, ОКПО 05905792
пр-т Независимости, 79/1, 220013, г. Минск
тел. +375 17 287 17 03, факс +375 17 331 91 15
e-mail: bdp@domdruku.by
р/с BY02BLBB30120100356240001001
в Дирекции ОАО «Белинвестбанк» по г. Минску и Минской области, БИК BLBBBY2X,
ул. Коллекторная, 11, г. Минск

21.08.2020 № 1/1611
На № ___ ад ___

Главному редактору газеты «Народная воля»
И. П. Середичу

Ответ на исх № 01-13/112 от 21.08.2020

Уважаемый Иосиф Павлович!

К сожалению, техническая возможность отпечатать 66-й номер газеты «Народная воля» 21 августа 2020 г. отсутствует.

Приносим свои извинения и надеемся на взаимопонимание.

С уважением,

Заместитель генерального директора по производству и идеологической работе Ю.Д.Ариховский



Народная Воля

Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства
РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
220030, г. Мінск, вул. Энгельса, д. 34-А
р/р BY08PJCB30120065351000000933, код PJCBBY2X
ЦБУ 113 "Приорбанк" ААТ, г.Мінск
УНП 100961759
21 жніўня 2020 г. № 01-13/112
на № ___ ад ___ 2020 г.

Генеральнаму дырэктару выдавецтва "Беларускі Дом друку"
Алейніку Р.С.

Раман Сціпанавіч!

Просім аддрукаваць 66-ы нумар газеты "Народная Воля" сёння, 21 жніўня, і адправіць у экспедыцыю.

Іосіф Сярэдзіч,
галоўны рэдактар газеты "Народная Воля"





Генеральнаму дырэктару дзяржаўнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом Друку"
Алейніку Р.С.

Раман Станіслававіч!

Адкажыце яшчэ на адно пытанне: чаму ніхто з кіраўніцтва выдавецтва і друкарні не паведамiў мне ўчора, што сённяшні нумар "Народнай Волі" (№ 66 за 21 жніўня) не будзе аддрукаваны з-за таго, што "зламалася тэхніка".

Прашу даць адказ тэрмінова.

Іосіф Сярэдзіч,
галоўны рэдактар газеты "Народная Воля".



Народная Воля

Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства
РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
220030, г. Мінск, вул. Энгельса, д. 34-А
р/р BY08PJCB30120065351000000933, код PJCBBY2X
ЦБУ 113 "Приорбанк" ААТ, г.Мінск
УНП 100961759
___ 2020 г. № 01-13/___
на № ___ ад ___ 2020 г.

Кіраўніку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп.Сяргеенку І.П.

Ігар Пятровіч!

Па надуманай прычыне не аддрукаваны сённяшні нумар "Народнай Волі" (№ 66 за 21 жніўня).

Лічым гэта брутальным наступам на свабоду слова, дэмакратыю, правы чалавека. Патрабуем тэрмінова аднавіць друкаванне газеты "Народная Воля" у выдавецтве "Беларускі Дом друку".

І.П.Сярэдзіч,
заснавальнік, выдавец
і галоўны рэдактар газеты
"Народная Воля"



Народная Воля

Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства
РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
220030, г. Мінск, вул. Энгельса, д. 34-А
р/р BY08PJCB30120065351000000933, код PJCBBY2X
ЦБУ 113 "Приорбанк" ААТ, г.Мінск
УНП 100961759
21 жніўня 2020 г. № 01-13/109
на № ___ ад ___ 2020 г.

Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь сп.Луцкаму І.У.

Ігар Уладзіміравіч!

Па надуманай прычыне не аддрукаваны сённяшні нумар "Народнай Волі" (№ 66 за 21 жніўня).

Лічым гэта як брутальны наступ на свабоду, дэмакратыю, правы чалавека. Патрабуем тэрмінова аднавіць друкаванне газеты "Народная Воля" у выдавецтве "Беларускі Дом друку".

І.П.Сярэдзіч,
заснавальнік, выдавец
і галоўны рэдактар газеты
"Народная Воля"



МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
пр-т Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
тэл./факс +375 17 203 92 31, +375 17 203 34 35
e-mail:info@mininform.gov.by

МИНИСТЕРСТВО ИНФОРМАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
пр-т Победителей, 11, 220004, г. Минск
тел./факс +375 17 203 92 31, +375 17 203 34 35
e-mail:info@mininform.gov.by

«25» 08 2020 № 03-07/1766
на № ___

Галоўнаму рэдактару ІПУП "Народная Воля"
Сярэдзічу І.П.

вул. Энгельса, 34/а
г. Мінск,
220031

Аб выхадзе ў свет нумара "Народнай Волі"

Добры дзень, паважаны Іосіф Паўлавіч!

Міністэрства інфармацыі, разгледзеўшы ў рамках кампетэнцыі Ваш зварот, паведамляе наступнае.

Пытанне друкавання нумара газеты не ўваходзіць у кампетэнцыю нашага ведамства, паколькі Дзяржаўнае прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" не з'яўляецца падведамаснай арганізацыяй Міністэрства інфармацыі і, адпаведна, не знаходзіцца ў яго падпарадкаванні. Такім чынам, за тлумачэннем Вам неабходна звяртацца непасрэдна ў адрас названага выдавецтва.

Гэты адказ на зварот можа быць абскарджаны ў парадку, вызначаным артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 года "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб".

З павагай,
Першы намеснік Міністра П.М.Лёгкі

СІТУАЦЫЯ

# «Лічым дні» –

## так каментуюць сітуацыю, звязаную з арыштам Яўгена Лівянта і членаў яго сям'і, супрацоўнікі рэпетытарскага цэнтра "100 балаў"



Напярэдадні навагодніх святаў стала вядома пра затрыманне Яўгена Лівянта – вядомага беларускага педагога, рэпетытара па фізіцы і матэматыцы, кіраўніка рэпетытарскага цэнтра «100 балаў». Пасля яго затрымання сілавікі заявілі, што ў 2020 годзе Лівянт «удзельнічаў у перакрыцці дарог і масавых парушэннях парадку», а цэнтр нібыта незаконна ажыццяўляў адукацыйную дзейнасць.

3 студзеня праўладныя тэлеграм-каналы паведамілі пра тое, што "за парушэнні парадку" затрыманы таксама жонка Лівянта **Юля**, дачка **Ганна**, яе муж **Мікіта Дрозд**. Наколькі вядома знаёмым сям'і, жонку, дачку і зяця затрымалі ў адзін дзень. Малодшая дачка – **Галіна** – знаходзіцца дома.

Пазней з'явілася інфармацыя і аб затрыманні выкладчыка матэматыкі і індывідуальнага прадпрымальніка **Аляксея Іванова**, які сумесна з Лівянтам заснаваў рэпетытарскі цэнтр «100 балаў». Пакуль усе знаходзяцца ў ізалятары на Акрэсціна, паколькі атрымалі па 14 сутак адміністрацыйнага арышту (а Юлія Лівянт – 15 сутак). Ці выйдуць арыштаваныя на волю, ціператворыцца адміністрацыйны арышт у крымінальную справу?.. Гэта пакуль невядома. "Лічым дні", – кажуць калегі Яўгена Лівянта, якому ўжо дадалі 10 сутак арышта.

Тым часам цэнтр "100 балаў" працягвае працу і ... збірае ўзнагароды. Так, у Нацыянальным дзіцячым тэхнапарку прайшоў другі этап Мінскай адкрытай лігі робататэхнікі. Трое навучэнцаў цэнтра і іх робаты аказаліся на п'едэстале пераможцаў: гэта юныя інжынеры **Аляксандр Сташэўскі** і **Дзмітрый Бялецкі** (трэнер **Данііл Постнік**), а таксама **Павел Відук** (трэнер **Іван Шабуня**).

Інфармацыя пра арышт заснавальнікаў цэнтра выклікала вялікі рэзананс. Галоўнае пытанне – "За штo?", "Хто будзе вучыць нашых дзяцей, калі такіх настаўнікаў кінуць у турму?"

**Алена НОВІКАВА.**

ПАЗІЦЫЯ



Дзмітрый ЛАЕЎСКІ, юрыст, былы адвакат

# Чаму лаўрэату Нобелеўскай прэміі не дазволілі нармальна рэалізаваць сваё права на абарону?

Доўжыцца разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да Алеся Бяляцкага, Валянціна Стэфановіча, Уладзіміра Лабковіча. Яны праваабаронцы.

Алесь Бяляцкі за шматгадовую праваабарончую дзейнасць у 2022 стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру. Дома ж, у Беларусі, Бяляцкага за яго дзейнасць пераследуюць у крымінальным парадку.

Зыходзячы з афіцыйнага прэс-рэлізу Генпракуратуры, абвінавачванне ім прад'яўлена па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса – кантрабанда, здзейсненая арганізаванай групай (частка 4 артыкула 228 КК) і фінансаванне дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак (частка 2 артыкула 342 КК).

У якасці першага злачынства разглядаецца тое, што нібыта праваабаронцы "з дапамогай іншых асоб забяспечылі" перамяшчэнне наяўных грошай на тэрыторыю Беларусі.

У якасці другога злачынства разглядаецца тое, што гэтыя сродкі былі выкарыстаныя ў Беларусі для:

– аплаты штрафаў, накладзеных на ўдзельнікаў акцый пратэсту;

– аплаты рахункаў за харчаванне людзей, якія ўтрымліваюцца ў ізалятарах за ўдзел у акцыях пратэсту;

– аплаты юрыдычнай дапамогі людзям, якія церпяць пераслед у сувязі з удзелам у акцыях пратэсту.

Здаецца, нават залішне каментаваць сумневы ў правамернасці такога абвінавачвання.

Варта толькі адзначыць (таму што гэта могуць не ўсе ведаць), што рэзалюцыяй №53/144 Генеральнай Асамблеі ААН зацверджана "Дэкларацыя аб праве і абавязку асобных асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды" (скарочана "Дэкларацыя аб праваабаронцах"). Артыкул 13 гэтай Дэкларацыі гарантуе права кожнага "запытваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы спецыяльна для мэтаў заахвочвання і абароны правоў чалавека". Гэта да пытання аб прававой аснове праваабарончай дзейнасці.

Але я хачу звярнуць увагу нават не на гэта. З усіх аспектаў першага дня гэтага працэсу, пра якія разнесліся навіны ў Інтэрнэце, я хачу закрануць наступны.

Прагучала, што крымінальная справа складаецца з 283 тамоў. І што больш за 70 тамоў з іх Алесь Бяляцкі не паспеў вывучыць. Таму што на азнаямленне з матэрыяламі справы быў адведзены 1 месяц.

Калі гэта праўда, і калі сапраўды толькі 1 месяц быў адведзены на азнаямленне са справай такога аб'ёму, то выходзіць, што Бяляцкаму (і яго абароне) трэба было вывучаць больш за 9 тамоў у дзень.

А кожны том – гэта каля 300 лістоў дакументаў. Вывучыць (я ўжо не кажу пра тое, што зрабіць нейкія выпіскі для падрыхтоўкі да абароны, а хоць бы і прачытаць) 2700 лістоў у дзень – гэта неверагодна. Нават адзін том, калі ён змяшчае шмат матэрыялаў, якія трэба ставіць пад сумнеў у судзе (напрыклад, пратаколаў допытаў), немагчыма нармальна вывучыць за дзень.

Зыходзячы з майго прафесійнага вопыту, на прапрацоўку такога аб'ёму матэрыялаў для падрыхтоўкі да абароны ў судзе з хуткасцю прыкладна 2 тамы ў дзень (хоць і гэта часам занадта хутка) і з улікам простага прагортвання "макулатуры", якой звычайна нямала, спатрэбілася б не менш трох месяцаў. А аднаго месяца для гэтага абсалютна ніяк не дастаткова!

На маю думку, калі чалавеку (тым больш, лаўрэату Нобелеўскай прэміі) не прадастаўлена досыць часу, каб уважліва прачытаць і зрабіць выпіскі з матэрыялаў, якімі ўлада абгрунтоўвае яго крымінальны пераслед, то ўжо не важна, што будзе далей у гэтым працэсе. Бо калі чалавеку не дазволена нармальна рэалізаваць сваё права на абарону – а гэта значыць базавую гарантыю справядлівага суда – то, зыходзячы з чаго, грамадства павінна давяраць выніку такога працэсу?

МЫСЛИ ВСЛУХ



Сергей БОРОДИЧ, учитель русского языка и литературы

# Должна ли родина любить человека?

Многим людям в школе задавали писать сочинение о том, должен ли человек любить родину. Но ни одной родине ни разу не задавали сочинения на тему «Должна ли родина любить человека?» Сегодня я, как учитель словесности, попробую это сделать.

Для начала хочется убедиться, находятся ли чувства человека по отношению к родине и чувства родины по отношению к человеку в состоянии равноправия (мне бы этого очень хотелось). В таком случае, если человек должен любить родину беззаветно, безусловно, то я хочу требовать от родины такой же безусловной любви (а не чуть что – враг народа). Если родина будет меня любить только при определенных действиях с моей стороны, то я жду тогда и определенных действий от родины, чтобы любовь моя к ней была оправданна. Если же любовь человека к родине безусловна, а родины к человеку – лишь за хорошее поведение, то эти отношения не являются здоровыми, как ни крути.

Прошедший год показал, что любить друг друга нынче совсем не модная тенденция. Сила желания злорадствовать над чужими трагедиями (поощряемая на официальном уровне) склоняет меня к мысли, что нелепое желание беречь людей и любить их безнадежно устаревают, а в этой ситуации границы нормальности размываются и то, что было / воспринималось / принималось однозначно, теперь напрямую зависит от интерпретаторов.

Страшно признавать (мне, человеку, связанному с литературой, искусством, культурой), что культура не справилась. Что она не спасает от разложения, от превращения в скотину. Что она не оберег. Почитайте интервью Андрея Кончаловского «Российской газете», вышедшее по случаю его 85-летия. Он сказал знаковую для русского режиссера (особенно сейчас) фразу: «Как бы высоко человек ни поднялся, его можно сделать животным за три часа». Вся мировая литература писала об этом – только, как выяснилось, читать об этом мало. Нужно ежедневно практиковать внутри себя это действие, отрабатывать навык, как на практике не превратиться в животное.

В 2022 году, как никогда, много сожалений (*было.* – **Ред.**). Больше всего жалко планов. Ты в течение какого-то времени поступательно строишь образовательный процесс, строишь систему, строишь империю (плохое слово в современных реалиях, но всё же), и вот подходит время, когда она должна работать во всю силу, а вдруг оказывается, что одним росчерком пера вся система признается непригодной, враждебной, антигосударственной и т. д. А это всего лишь был образец честной, профессиональной работы. Трагичность всей этой ситуации в том, что в стране действительно есть люди, готовые делать новое образование, готовые вдумчиво, вовлеченно, критически подходить к тому, что они делают. Только вот стране это образование к черту не нужно. Воспитывая детей по-новому, пытаясь сделать их конкурентоспособными в новых реалиях, компетентными не для сегодня, а для качественного завтра, мы автоматически делаем их ненужными, автоматически обрекаем их на то, что страна переживет их и выплюнет послезавтра.

Еще жалко родителей. Стараниями воинствующих хамов из телевизора они искренне уверены, что вокруг враги. Вместо того, чтобы жить, они боятся и аккумулируют внутри себя ненависть, вылитую на них же с экрана. Я бы хотел, чтобы родители жили.

Видимо, нужно было громче и чаще говорить о том, о чем трубила вся литература: враг не вокруг – враг внутри. Как защитить мир от себя – вот главная задача, которую должен поставить перед собой человек. У Гете на этот счет было вечное «Лишь тот достоин жизни и свободы, // Кто каждый день за них идет на бой». У Ремарка был монолог о потерянном поколении. Наверное, я уже состарился до того состояния, что могу позволить себе думать в масштабах поколения.

Какова участь, карма нашего поколения? В чем она? Видимо, в том, чтобы вместе со своей страной рухнуть на дно и постараться дождаться возрождения. Помните, Шевчук в своем стихотворении призывал: «Родина, вернись домой!» Вот и я хочу сказать об этом. Родина, вернись домой! Я буду ждать, пока ты вернешься к своим первоначальным настройкам, потерявшимся за год оголтелого поощрения всех, кто поливает дерьмом каждого несогласного. Я перетерплю, я дождусь времени, когда ты задохнешься искать врагов народа внутри народа.

Родина, слышишь меня? Я здесь, я никуда не уезжаю. Я буду делать свое дело до той поры, пока ты не выстрелишь мне в спину. Потому что я люблю свое дело больше, чем родину. Я люблю свое дело больше, чем себя. Честь того, чем я занимаюсь, – это единственное, чему я подотчетен в этом мире.

P.S. Этот текст был написан раньше и по другому поводу, но сейчас волею обстоятельств посвятил сам себя. Мне в жизни посчастливилось работать с Евгением Борисовичем Ливянтом и многими другими его коллегами. Всё это время для меня они являют собой образец честности, порядочности, искреннего боления за дело, нетерпимости ко лжи и профанации, а также пример безупречной интеллигентности, чувства вкуса, блестящего образования и воспитания. Поэтому всё, что успелось сделать в ушедшем году, – моё посвящение им.

ДОСЬЕ

***Сергей Бородич*** *– педагог-новатор. Являлся участником проекта «Учитель для Беларуси», которая реализовывалась под эгидой Министерства образования при финансовой поддержке ОАО «Сбер-банк». В рамках проекта молодые учителя-новаторы ехали работать в сельские школы. Сергей Бородич оставил Минск и поехал в агрогородок Жилихово Копыльского района. В настоящее время работает в частной сад-школе «Апельсин».*

ЭКАНОМІКА

# «Гомельскі хімзавод» з-за вайны пазбавіўся 95 працэнтаў экспарту

ААТ «Гомельскі хімзавод» у сакавіку мінулага года праз напад Расіі на Украіну пазбавіўся 95% экспарту. Пра гэта «Весніку «Белнафтахіма» расказаў дырэктар прадпрыемства **Дзмітрый Чарнякоў**.

«Не сакрэт, што ў пачатку сакавіка мы раптоўна пазбавіліся 95% экспарту, які складаў 70% усёй выручкі, і засталіся са стратным унутраным рынкам. Справа ў тым, што на працягу пяці гадоў прадпрыемства не падымала кошты на ўгнаенні ўнутры краіны, бо ўдавалася перакрываць страты на айчынным рынку даходамі ад экспарту», – сказаў ён.

Па словах дырэктара, прадпрыемства знайшло выйсце з сітуацыі, павышаючы кошты на беларускім рынку.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Силы быстрого реагирования НАТО: немецкий акцент



Германия в начале 2023 года приняла на себя руководство силами быстрого реагирования НАТО.

В этом году так называемое «острие копья» военного альянса составят примерно 11 500 военных из сухопутных войск. Бундесвер предоставляет около 8 000 солдат – мужчин и женщин.

Другие силы прибыли из Бельгии, Чехии, Латвии, Литвы, Люксембурга, Нидерландов, Норвегии и Словении.

Официально называемое VJTF (Совместная оперативная группа сверх высокой готовности) – головное соединение НАТО было создано в ходе первого крупного кризиса в Украине после 2014 года и с тех пор является центральным элементом стратегии сдерживания против России. Его особенностью является высокая степень готовности.

# 45,6 миллиона человек! Это рекорд



Число работающих в Германии в 2022 году выросло до рекордного уровня.

Как объявило Федеральное статистическое управление, общее количество трудоустроенных граждан по итогам года составило около 45,6 миллиона человек. «Это самый высокий показатель с момента объединения Германии в 1990 году», – говорится в сообщении.

Согласно предварительным расчетам ведомства, среднегодовая численность занятых в экономике в 2022 году увеличилась на 589 000 человек по сравнению с предыдущим годом.

Одной из причин роста занятости в прошлом году стала иммиграция иностранных работников, пояснили в Федеральном ведомстве. Кроме того, число работающих граждан среди местного населения было также более высоким.

Согласно официальным данным, 93% прироста занятости приходится на поставщиков услуг. В 2022 году здесь произошел рост на 548 000 человек или на 1,6%. Наибольший абсолютный прирост был зафиксирован в секторе общественных услуг, образования и здравоохранения – 189 000.

В секторе торговли, транспорта и гостиничного бизнеса также было занято дополнительно 180 000 человек, а в секторе деловых услуг их численность увеличилась на 88 000. Тем не менее, эти два сектора не смогли компенсировать свои потери, вызванные пандемией.

# Политику прозрачности могут пересмотреть




В Германии Федеральное ведомство по защите конституции предлагает компаниям, как крупным, так и небольшим, пересмотреть политику прозрачности в интернете. Об этом сообщает газета «Зюддойче Цайтунг».

По данным немецких спецслужб, иностранные разведки и террористические группы заметно активизировали свою деятельность в сети. В частности, они могут легко получить доступ к разного рода картам, схемам и базам данных важнейших инфраструктурных объектов по всей стране. Это может позволить злоумышленникам выбрать самые уязвимые места для атак.

Дискуссии о балансе между прозрачностью и безопасностью вспыхнули с новой силой после того, как в октябре было парализовано движение поездов по всей Северной Германии. Сообщается, что были перерезаны как основная, так и дублирующая кабельные трассы систем управления движением, в местах, отстоящих друг от друга на 500 км. По данным следователей, это показывает, что злоумышленники были отлично осведомлены о железнодорожной инфраструктуре.

# Почта отказалась от телеграмм

Долгое время телеграмма являлась самым быстрым способом доставки сообщений по всему миру. В краткой и лаконичной форме отправлялась важная политическая или военная информация, а также частные сообщения – например, о рождении или свадьбе. Бум их пришелся в Германии на 1978 год – тогда было отправлено около 13 миллионов телеграмм!

И вот наступил день – 31 декабря, когда концерн Deutsche Post отправил свои последние телеграммы – сервис, действовавший 150 лет, канул в Лету.

Сегодня все меньше частных и деловых клиентов пользуются сравнительно дорогим каналом передачи сообщений, сказала представительница почты.

Для сведения: В мае 1844 года изобретателем Сэмюэлем Морзе была отправлена первая телеграмма: расстояние, на которое сообщение отсылалось по телеграфу, было более 60 километров – из Вашингтона в Балтимор.

С помощью электрических импульсов сигналы азбуки Морзе (короткие, длинные и паузы) можно было передавать по линии, что и делало телеграммы – по сравнению с письмами – очень быстрыми.

# В Гейдельберге неизвестные украли шпиль башни университетской библиотеки

Неизвестные лица совершили в Гейдельберге необычное преступление: они украли шпиль башни университетской библиотеки.

Исчезновение шпиля заметили только сейчас, хотя кража, предположительно, была совершена в первой половине декабря. Злоумышленники забрались наверх по строительным лесам, которые были установлены для проведения ремонтных работ.

Вес украденного шпиля составляет около 15–20 кг. Так как это достаточно тяжёлый предмет, полиция предполагает, что кража совершена не одним, а несколькими преступниками. В настоящее время полиция ведёт розыск и обратилась к общественности в поисках свидетелей.



ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# …Это станет приговором российскому народу



Мы присутствуем при беспримерном опыте «расчеловечивания» – причем, в отличие от тоталитарных режимов прошлого, которые воспитывали в своих подданных волю, заставляя их с энтузиазмом служить масштабному злу, современная российская система практически ничего не требует от большинства, кроме следования по течению подобно брёвнам, срубленным где-то в Сибири и бесцельно плывущим к арктическому океану.

Чем это закончится в ближайшие годы – я не рискну сказать определенно, но то, что в более отдаленном будущем это станет приговором российскому народу как обладающей собственной субъективностью единице, сомневаться не приходится…

**Вячеслав ИНОЗЕМЦЕВ,**
**доктор экономических наук, директор Центра исследований постиндустриального общества.**

СТОП-КАДР

*Огромнейшие палаточные городки российских войск раскинулись на территории белорусских военных полигонов. Оттуда, с востока, прибывают эшелоны, укомлпектованные самой разной техникой и боевым вооружением. Неужели Беларусь опять откроет границу для продвижения агрессоров на Киев?*







СКАЗАНО!

## Урсула Фон дер ЛЯЙЕН, председатель Еврокомиссии:



*– Европейский союз продолжит делать все в своих силах, чтобы поддержать храбрый народ Украины. Мы продолжим давление на Кремль столько, сколько это потребуется, ударяя по режиму санкциями. Мы расширим санкции на тех, кто военным образом поддерживает российскую войну, как Беларусь и Иран. Мы продвинемся дальше с новыми санкциями против Беларуси, отвечая на ее роль в этой российской войне в Украине.*

*(9 января, пресс-конференция после подписания новой декларации о сотрудничестве ЕС и НАТО.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
13 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

З НАГОДЫ

Алесь БЯЛЯЦКІ:

# «Вельмі цяжка бачыць гібель свайго народа»

*У Мінску працягваецца судовы працэс над праваабаронцамі Алесем Бяляцкім, Валянцінам Стэфановічам, Уладзімірам Лабковічам і (завочна) Дзмітрыем Салаўёвым. Дзяржаўная прапаганда стараецца зрабіць з іх кантрабандыстаў, фінансістаў экстрэмісцкай дзейнасці, тых, хто спрабуе разбурыць беларускую дзяржаву. І ўсё ж важна разумець, каго на самой справе судзяць. І задаць сабе пытанне: ці можа разбураць беларускую дзяржаву той, хто змагаўся за яе тады, калі пра тое, што на палітычнай карце свету з'явіцца Рэспубліка Беларусі, не марылі нават самыя смелыя?*

*Алесь Бяляцкі сёння вядомы ў Беларусі і свеце як праваабаронца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Але сваё змаганне ён пачынаў не ў 2020 годзе і нават не ў 2011-м, калі быў асуджаны ў першы раз.*

*Сваё змаганне ён пачынаў нават не ў 1994-м, і нават не з Аляксандрам Лукашэнкам, які, каб стаць прэзідэнтам Беларусі, адзначаўся асаблівай актыўнасцю. Сваё змаганне Бяляцкі пачынаў яшчэ ў савецкія часы, і гэта было змаганне не за высокую пасаду, а за Беларусь. У архівах захаваўся артыкул студэнта 5-га курса Алеся Бяляцкага "Становішча беларускай мовы на сучасным этапе", напісаны ў далёкім 1983 годзе. Савецкім Саюзам тады кіраваў былы старшыня КДБ Юрый Андропаў, спецслужбы "закручвалі гайкі", не было намёкаў не толькі на будучы развал СССР, а нават на гарбачоўскую перабудову. І вось што пісаў смелы студэнт.*



ДАСЬЕ

*Алесь Бяляцкі нарадзіўся 25 верасня 1962 года ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна Карэліі (РСФСР) у беларускай сям'і. Хутка сям'я вярнулася ў Беларусь на сталае жыхарства ў гарадскі пасёлак Шацілавічы Гомельскай вобласці (на яго базе быў утвораны сучасны Светлагорск). Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру Інстытута літаратуры АН Беларусі.*

*У 1986 годзе Бяляцкі быў адным са стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». У 1988-м выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралог Беларусі», быў сябрам арганізацыйнага камітэту Беларускага народнага фронту. У 1990 годзе выступіў адным з арганізатараў Беларускай Каталіцкай Грамады.*

*У 1992–1996 гадах з'яўляўся дэпутатам Мінскага гарадскога савета.*

*З 1989 па 1998 гады працаваў дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.*

*З 1996 года кіраваў праваабарончым цэнтрам «Вясна», які ў 2003 годзе быў пазбаўлены рэгістрацыі.*

**Даць з отступам як артыкул А.Бяляцкага** "Межы мовы не заўсёды супадаюць з межамі народаў, для якіх гэтая мова з'яўляецца роднай. Такія мовы як англійская, руская, іспанская з'яўляюцца міжнароднымі мовамі, і колькасць людзей, якія размаўляюць на гэтых мовах, значна большая за колькасць людзей, для якіх гэтыя мовы родныя. Для рускага ці англічаніна на цяпершанім этапе не ўзнікае пытання абароны сваёй мовы. Такое пытанне стаіць перад невялікімі народамі, якія карыстаюцца мовай, характэрнай толькі для пэўнай тэрыторыі. Гэта: албанцы, баўгары, беларусы, латышы, македонцы, фіны эстонцы і г.д. Гэтыя невялікія народы ўмоўна можна падзяліць на тры групы:

а) Народы, якія маюць самастойную дзяржаву і не ўваходзяць ні ў якія дзяржаўныя канфедэрацыі: албанцы, баўгары, фіны і іншыя. Яны маюць цалкам самастойныя мовы і ўплыў іншых моў на іх родную мову нязначны.

б) Народы, мовы якіх стаяць на ўзроўні з іншымі мовамі ў адной дзяржаве і маюць параўнальна аднолькавую жыццяздольнасць і ўжывальнасць. Сюды можна аднесці македонскую, славацкую і інш. мовы. Такія мовы падвяргаліся ўздзеянню на іх іншых моў. На македонскую – сербская, на славацкую – чэшская. Але ж дзякуючы самастойнасці народаў-носьбітаў мовы, гэтыя мовы паспяваюць асіміляваць іншамоўную лексіку без якой-небудзь страты для сябе. У Чэхаславакіі ўсе дзяржаўныя дакументы існуюць на дзьвюх мовах, чэшскай і славацкай. На любых з'ездах і канферэнцыях гучаць як чэшская, так і славацкая мовы.

в) Народы, якія ўваходзяць у склад саюзаў, канфедэрацый, дзяржаўнай мовай якіх з'яўляецца іншая, дамінуючая мова. Тут пытанне абароны сваёй мовы стаіць асабліва востра. У СССР існуюць 14 саюзных рэспублік, г.зн. 14 выразна акрэсленых народаў, са сваёй мовай, культурай, дамінуючымі для якіх з'яўляецца руская мова, асноўная роля якой – служыць сродкам сувязі паміж гэтымі народамі. Такім чынам, савецкаму грамадзяніну неабходна ведаць рускую мову, каб быць паўнапраўным членам грамадства. І сістэма навучання накіравана ў нас на тое, каб рускую мову ведалі ўсе. А да сваёй роднай мовы дзяржава дазваляе адносіцца так, як каму захочацца. Яна і не прымушае, і не забараняе. І таму захаванне народам сваёй мовы – асабістая справа самога народа. І гора таму народу, які не ўсвядоміў, што яго мова "такая ж людская, як англійская і французская", які не паспеў стварыць інтэлігенцыю, якая б стала на абарону яго мовы, і чый урад звяртае мінімум увагі на мову – твар народа, праводзячы незразумелую, ці не здрадніцкую палітыку ў гэтым напрамку.

Абыякавасць – гэта здрадніцтва. Усе гэтыя фактары прыводзяць да таго што цэлы народ пераходзіць на нейтральную рускую мову, забываючы сваё, роднае, адвечнае, не меней прыгожае і годнае. Такое адбываецца зараз з беларускім народам і беларускай мовай. Агромністая частка беларусаў не ўсведамляе сапраўднай годнасці сваёй мовы. У гарадах да яе адносяцца з пагардай, у вёсках нікога не турбуе, што паступова дзеці ведаюць усё меней "сваіх" слоў, а размаўляюць на руска-беларускай сумесі.

Беларусы ў сваёй большасці не маюць нацыянальнага гонару. Ніхто не тлумачыць ім, што перастаўшы размаўляць "па-дзеравенскі" і пачаўшы "па-гарадскому", яны не проста паказалі што яны "не лыкам вязаны", што яны таксама здольныя, а што гэта здрада сваёй роднай мове, свайму народу. Ды і наогул народ без мовы не існуе.

У нас няма беларускай тэхнічнай інтэлігенцыі, у нас няма беларускага рабочага класу ў поўным сэнсе гэтага слова. Пэўная частка рабочых размаўляе на беларускай мове, якую яны прынеслі яшчэ з вёскі. Але ж кадравыя рабочыя, бацькі якіх былі рабочымі, і тэхнічная інтэлігенцыя – выхадцы з рабочых сем'яў, не ведаюць беларускай мовы, ці валодаюць ёй вельмі і вельмі абмежавана. Таму літаратурна-народная мова, на якой звычайна размаўляюць рабочыя іншых краін і якая складае адзін з асноўных пластоў развіцця літаратурнай мовы, у беларусаў адсутнічае.

Я не ведаю, як складаюцца справы ў невялічкіх гарадах і пасёлках на невялічкіх заводах, але ж на вялікіх прадпрыемствах гэта менавіта так. І гэта абумоўлівае ненатуральнасць беларускай літаратурнай мовы, на якой размаўляе зусім нязначная, як да ўсяго народа, група людзей.

Пытанне абароны знікаючай роднай мовы павінна быць паднята ў першую чаргу лепшымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі.

Самасвядомасць беларускай інтэлігенцыі пачала прачынацца ў пачатку XX стагоддзя. Пераадолеўшы паланізацыю і русіфікацыю, яны заявілі: мы – беларусы! Гэта быў пачатак. У 20-я-першай палове 30-х гадоў беларуская інтэлігенцыя заявіла аб сабе з новым моцам. Літаратурныя аб'яднанні "Полымя", "Маладняк" і "Узвышша" з'ядналі лепшых прадстаўнікоў беларускай культуры. Сярод рабочых і чыноўнікаў з'яўляліся беларускія гурткі, арганізоўваліся беларускія самадзейныя мастацкія калектывы. І ўсё гэта, не гледзячы на тое, што заходняя частка Беларусі стагнала пад польскай уладай.

Першая значная страта беларускай інтэлігенцыі, прычым яе лепшым, бескампрамісным і праўдзівым прадстаўнікам, была нанесена ў часы сталінскай рэакцыі. Амаль увесь урад Беларусі і вялікая частка беларускіх пісьменнікаў (М.Чарот, У.Дубоўка, Ц.Гартны, А.Александровіч, М.Гарэцкі, У.Хадыка, Я.Скрыган, А.Пальчэўскі, С.Шушкевіч і інш.) былі рэпрэсіраваныя і ці расстраляныя альбо сасланыя ў Сібір. Нямногія з іх праз дзесяцігоддзі вярнуліся на Радзіму і здолелі працягнуць сваю дзейнасць.

Другім ударам, яшчэ страшнейшым, была Вялікая Айчынная вайна. Пасля гэтых нават Саюз пісьменнікаў Беларусі аказаўся амаль выбітым. Творы адных друкаваць не дазвалялася, а другія загінулі на фронце. І шматмільённы народ у перыяд свайго незвычайнага росту ў матэрыяльным плане, застаўся амаль без культуры. Чыталі на рускай мове, забываючы сваю і падаючы прыклад іншым, тым хто прыходзіў з вёскі. Яны думалі, што так і трэба.

Гэта, на маю думку, і паслужыла адным з тых фактараў, якія абумовілі цяперашняе становішча. Далей, што датычыцца цяперашняй беларускай інтэлігенцыі. Як ужо было адзначана, тэхнічнай інтэлігенцыі ў нас няма. Застаюцца настаўнікі беларускай мовы і настаўнікі ў нешматлікіх беларускіх школах (зноў такі, адносна колькасці ў іх дзяцей), пісьменнікі, акторы беларускамоўных тэатраў, карацей кажучы, людзі, праца якіх так ці інакш звязана з беларускай мовай. Гэтых людзей умоўна можна падзяліць на дзве катэгорыі. Людзі, якія па-сапраўднаму любяць і шануюць беларускую мову і ставяцца да яе як да роднай, і людзі, для якіх веданне беларускай мовы проста дае лусту хлеба. Не больш, не меньш. Натуральна, што лепшай часткай з гэтых двух груп з'яўляецца першая. Іх багата сярод беларускіх інтэлігентаў.

Але ж вось пытанне, а што яны робяць для таго, каб сваю мову пачалі шанаваць і самі беларусы? І я магу ўпэўнена сказаць – амаль нічога. Таму што не маюць як. У нас няма масавых беларускіх арганізацый. Лічыцца, што калі ёсць рэспубліка, урад, ды і жывуць амаль адны беларусы, то нашто яшчэ такія арганізацыі, якія б абараналі сваю мову, свае звычаі, сваю культуру. І калі такія арганізацыі не надта патрэбны Грузіі, Арменіі, Латвіі, тым рэспублікам, дзе мова карэнным чынам адрозніваецца ад агульнасаюзнай рускай мовы, то яны патрэбны нам – беларусам. Бо не паспеем мы і азірнуцца, як беларускі народ знікне, таму што знікне беларуская мова, праглынутая рускай. Калі гістарычныя абставіны скláліся такім чынам, што стварылася беларуская нацыя і беларускі народ, то нам, беларусам, трэба абараняць сваю нацыянальную культуру і мову ад каго бы то не было, і нават ад рускіх.

К.Каганец і Ф.Багушэвіч у свой час, абараняючы беларускую мову, пісалі, што ў беларускага народу няма інтэлігенцыі. Трэба глядзець, каб не выйшла наадварот, каб беларуская інтлігенцыя не праспала беларускі народ. А гэта можа здарыцца. І тады ўсё. Такую старонку, як беларуская, у гісторыі можна будзе загарнуць.

У нас няма агульнарэспубліканскага друкарскага органа, які б сваёй мэтай ставіў як раз абуджэнне беларусаў. Я не баюся гэтага слова, бо беларусы не адчуваюць у поўнай меры, што яны беларусы, так як іншыя народы. І трэба яшчэ шмат і уголас, самае галоўнае – УГОЛАС гаварыць пра гэта.

Мы неяк пераскочылі праз тое, што ў свой час яшчэ распачалі "Наша Ніва" і "Наша Доля". У нас няма агульнанароднай асновы. Зараз беларускія пісьменнікі стараюцца неяк залапіць гэтую прарэху. Асабліва характэрная тут творчасць У.Караткевіча, таксама дзейнасць ВІА "Песняры". Але ж адзін ці некалькі пісьменнікаў проста не ў стане зрабіць гэтую агромністую працу. Трэба газета з міліённымі тыражамі, трэба радыё і тэлеперадачы, патрэбны намаганні ўсіх лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Можа тады, паўплываўшы на моладзь у першую чаргу, разбудзіўшы нацыянальную годнасць беларусаў, можна будзе што-небудзь зрабіць.

*(Заканчэнне на 7-й стар.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

*(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.)*

Але ж усё гэта – мары. Хто возьмецца за такую работу, ды і ці дазволяць гэта, разглядзеўшы крамолу – невядома. А з кожным годам, пры цяперашнім ходзе спраў, Беларусь ўсё бліжэй да свайго канца. І вельмі цяжка бачыць гібель свайго народа. Мы за 60 год савецкай улады прывыклі давяраць свайму ўраду. А ўрад маўчыць.

Час ад часу па другой праграме пачалі з'яўляцца фільмы, дубліраваныя на беларускую мову. Але ж гэта кропля ў моры. Другая праграма павінна паказваць фільмы – 90% на беларускай мове, каб атрымаліся хоць якія вынікі. Беларусы павінны прызвычайвацца ўспрыймаць сваю мову на гук. Радыё зараз слухаюць вельмі мала, і таму надзвычай вялікую ролю зараз маглі бы адыгрываць мастацкія фільмы на роднай мове, так як тэлебачанне зараз прыцягвае ўвагу найбольшай часткі насельніцтва.

Сваю будучыню народ бачыць у дзецях. У нас гэтай будучыні амаль няма. Пагаворым пра беларусаў у горадзе. 55% беларускіх дзяцей на сёння жывуць у гарадах. І калі нават бацька ці матка дзіцёнка ведае і размаўляе на беларускай мове, само дзіця не ўспрыймае яе як родную. Пачынаючы з дзіцячага сада (ні адна выхавацельніца ў горадзе не размаўляе на беларускай мове, роднай мове дяцей, якіх яна выхоўвае), далей – кіно, мульфільмы, кнігі, нарэшце – школа – паўсюль руская мова.

Возьмем Гомельскую вобласць – Гомель (каля 400 тыс.), Мазыр (каля 100 тыс.), Рэчыца і Светлагорск (кожны па 60 тыс.), Жлобін, Рагачоў, Калінкавічы (кожны па 40 тыс.). Прыкладна 20% гарадскіх жыхароў – не беларусы. Значыць у гэтых гарадах жыве прыкладна 600 тыс. беларусаў. Зараз мяне цікавіць, ці ёсьць у гэтых гарадах хоць адна беларуская сярэдняя школа? Аніводнай. Гэта замест таго, каб 70% (з поўнай павагай да рускіх дзяцей) сярэдніх школ былі на беларускай мове. Гэта жахліва.

Я толькі не магу зразумець, чаму лічыцца натуральнымі прыніжэнне і занядбанне сваёй роднай мовы. Каму гэта на руку? І чаму ўсе маўчаць? Мы ж – цэлы народ!

У рускіх школах беларускай мове адводзіцца 3-4 гадзіны на тыдні. Гэтага як раз хапае, каб навучыць вучняў замест "И" пісаць "І" і навучыць адрозніваць Янку Купалу ад Якуба Коласа. І дзеці не хочуць вывучаць беларускую мову па рацыянальных прычынах, таму што ў горадзе яна не выкарыстоўваецца, на ёй ніхто не гаворыць, не працуе ніводная ўстанова, яе нічутно, акрамя радыё, якое ніхто не слухае, і аб'яў па тэлебачанні, якія ніхто не глядзіць. Беларуская мова фактычна не з'яўляецца дзяржаўнай мовай Беларусі. Да яе ў школе прыкладна такія ж адносіны, як раней у гімназіі ставіліся да лацінскай мовы – мёртвай мовы…

І гэта ў той час, калі ўсе і бабулі і дзядулі размаўляюць на ёй. Беларуская мова пры пераходзе з вёскі ў горад зміраe за два пакаленні.

Пісьменнік Алесь Асіпенка ў ЛіМе (*"Літаратура і мастацтва"*. – **Заўв.**) дзесь за чэрвень піша, што сярод гарадской моладзі з'яўляецца нешта накшталт моды на беларускую мову. І лічыць гэта за нейкі станоўчы зрух. Па-першае, з адной моды мову не вывучыш, і значыць, тыя беларускія слоўцы, якімі казыраюць сярод рускага моўнага патоку і якія маюць па большай частцы экспрэсіўна-эмацыянальную афарбоўку, нічога не вырашаюць. Яны ўжываюцца як своеасаблівы жаргон. У гэтым нічога радаснага не відно. А па-другае, гэтая з'ява амаль зусім не распаўсюджаная сярод моладзі. А.Асіпенка проста яе перабольшвае. Сярод гарадской моладзі ёсць вялікая частка, якая разумее, што яны беларусы, што беларуская мова – іхняя родная мова, але ж і яны амаль ніколі не размаўляюць па-беларуску. Таму што "так не прынята". Хаця яны б згадзіліся з радасцю і не толькі "дзеля моды".

Ніхто іх не аб'яднае, ніхто не згуртуе ў барацьбе за мову, за культуру. Нікому гэта не патрэбна – ці баяцца, ці не дазваляюць? Невядома, але ж усё ідзе так як і ішло – да горшага. Гэта – апошняе пакаленне, якое звязанае з жывой беларускай мовай праз бабуль і родных з вёскі…

Моладзь жа, якая прыязджае з вёскі ў горад працаваць, у сваёй большасці вельмі хутка "перакваліфікуецца" на рускую мову, таму што беларуская мова значыць, што ты з вёскі, адсталы, некультурны. Цікава глядзець як такая мама, яшчэ з дзеканнем і цеканнем, прыходзячы ў кнігарню, і разглядаючы дзіцячыя кніжкі для свайго сына ці дачкі, круціць носам, маўляў, адныя беларускія, і купіць няма чаго… Гэта страшна. Але са знешняга выгляду ўсё добра. БССР – у ААН, беларускія пісьменнікі атрымліваюць зоркі герояў, дзяржаўныя прэміі, "Песняры" і "Верасы" вядомыя ўсёй краіне. Усё гэта добра. А народ … знікае. І што міністэрства адукацыі БССР, урад нарэшце? Ці ім усё-роўна? Ці гэта так і трэба, каб праз 50 гадоў беларусы, як народ, зніклі?

Няўжо ніхто не бачыць? Але хто-небудзь сказаў хоць слова? Гэта ж – сваё, калі мы самі не абаронім яго, ніхто за нас не зробіць. Рускія шыльды на магазінах, назвы вуліц, вёсак, гарадоў. Няўжо беларуская мова такая незразумелая, што яе не разбяруць рускія? Нам, як нікому іншаму, трэба карыстацца падобнасцю нашых моў. У Грузіі – шыльды на дзьвюх мовах, таму што руская і грузінская дзве непадобныя мовы. У нас жа ўсё можна – па-свойму, і ўсякі рускі зразумее.

Хочацца крычаць. Але ж ці пачуе хто? Але ж кожны з нас павінен рабіць усё, што ў нашых сілах. Павінна ж нарэшце Беларусь прачнуцца. Трэба сабраць хаця б тое, што яшчэ захавалася, бо яшчэ крыху і будзе позна. Беларусы, зразумейце, што вы такі ж самы народ, як і іншыя. Што ў вас ёсць багацейшая гісторыя, культура, літаратура, свае звычаі.

Як пісаў **Карусь Каганец**:

*Адважна, брацця, наперад ідзіце*
*Цвёрдай і правай ступою!*
*Кожнаму ў вочы смела глядзіце,*
*Праўду нясіце з сабою!*
*За родну краіну, звычай і мову,*
*За гонар груддзю ставайце!*
*Ды будзьце верныя сваему слову,*
*За праўду заўсёды трывайце!*
*Тады вы усякую зможаце сілу…*

**Алесь Бяляцкі, 1983 год, Гомель**

РЭЙТЫНГ

# Беларусь згубіла пазіцыі ў рэйтынгу армій міра

Увесь мінулы год у Беларусі прайшоў пад знакам увагі да арміі і бясконцых вучэнняў Узброеных сіл. Нягледзячы на гэта ў рэйтынгу армій свету нашы вайскоўцы згубілі адразу восем пазіцый.

Нашу краіну апярэдзілі ўзброеныя сілы Азербайджана, Эфіопіі, Фінляндыі, Сербіі, Балгарыі і шэрагу іншых дзяржаў. У Military Strenght Ranking, складзены даследчым рэсурсам Globalfirepower на падставе каля 60 фактараў, Беларусь стала толькі 60-й. Годам раней сіла беларускай арміі ацэньвалася 52-й радком сусветнага рэйтынгу.

А вось першая чацвёрка самых магутных армій свету не зведала змен. Гэта Узброеныя сілы ЗША, Расіі, Кітая і Індыі. На пятае месца з восьмага паднялася Вялікабрытанія.

Даследчыкі вылучылі таксама Украіну, якая ва ўмовах ваеннага канфлікту нарасціла свае пазіцыі ў рэйтынгу Globalfirepower узляцела з 22-га на 15-е месца. І за мінулы год украінская армія апярэдзіла, напрыклад, такія краіны, як Германія, Ізраіль, Тайвань і Саудаўская Аравія.

З 24-га на 20-е месца перамясцілася за год Польшча.

У Сярэдняй Азіі імкліва нарошчвалі ваенны патэнцыял Узбекістан і Казахстан, якія сталі, адпаведна, 62-й і 63-й арміямі ў свеце.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

АФІЦЫЙНА

# Бальнічныя будуць аплочваць па-новаму

*Праз год – з 1 студзеня 2024 года – зменіцца парадак разліку выплат па бальнічным. Адпаведная пастанова Саўміна апублікавана на Нацыянальным партале прававой інфармацыі.*

Вось самыя важныя змены.

Мінімальны памер аплаты бальнічных будзе разлічвацца з памеру мінімальнай заработнай платы (з 1 студзеня 2023 года гэта 554 рублі). Цяпер мінімальная аплата бальнічнага разлічваецца з 50% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва – гэта значыць зыходзячы з сумы 169,92 рубля.

Павялічыцца памер выплат па бальнічным для тых, хто працуе 10 гадоў і больш.

Для тых, хто плаціць унёскі ў ФСАН больш за 10 гадоў, бальнічны з першага дня хваробы будзе аплачвацца ў памеры 100% заробку.

Для тых, хто працуе і робіць адлічэнні ў ФСАН менш за 10 гадоў, – у памеры 80% страчанага заробку.

Цяпер першыя 12 дзён бальнічнага аплачваюць у памеры 80% страчанага заробку, астатнія дні — 100%.

Усё вышэйпералічанае не тычыцца бальнічных па догляду за дзіцем або па цяжарнасці і родах.

Павялічыцца таксама памер сярэднядзённага заробку, з якога разлічваюць выплаты па бальнічным. У разлік будуць уключацца ўсе выплаты (напрыклад, і матэрыяльная дапамога, і дапамога на аздараўленне і г.д.), на якія налічваюцца ўнёскі ў ФСАН.

Акрамя таго, бальнічны будзе аплачвацца толькі па асноўным месцы працы, колькі б працадаўцаў у чалавека ні было. Дзеля гэтага асноўны працадаўца атрымае з ФСАН дадзеныя аб заработнай плаце з усіх месцаў працы, разлічыць і выплаціць грашовую дапамогу з іх улікам. Цяпер выплаты прызначаюцца кожным з працадаўцаў.

Яшчэ адно важнае наваўвядзенне: права на бальнічны пры ўмове непрацаздольнасці будзе па ўсіх месцах працы. Зараз бальнічны ліст аплачваецца толькі ў тых месцах працы, куды работнік яго прынёс. Прычым, для разліку аплаты бальнічнага будуць браць заробак за 18 месяцаў. Нагадаем, што цяпер улічваюцца 6 месяцаў у перыяд занятасці.

На думку Мінпрацы, гэта дазволіць выключыць выпадкі штучнага завышэння сярэднядзённага заробку і максімальна справядліва вызначыць суму выплаты па бальнічным.

**Аліна ГЛІНСКАЯ.**

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО…

# Валуны-лекары на Беларусі. Ад чаго лечаць і выратоўваюць

На паверхні беларускай зямлі вялікая колькасць розных па памерах і форме валуноў. У Беларусь іх прынёс апошні ледавік. Але шмат якія валуны ў народзе здаўна лічацца лекавымі. За некаторымі нават замацаваны пэўныя назвы: «Лекавы камень», «Святы камень», "Вільціс".

Ці ведаеце вы, дзе яны знаходзяцца і ад чаго, згодна паданням, лечаць?

## Камяні-следавікі

Па ўсёй Беларусі лекавымі лічылі камяні-следавікі. Гэта валуны, на якіх ёсць невялікія паглыбленні, што нагадваюць ступню чалавека або сляды жывёл. Выемкі бываюць прыродныя і штучныя. Наконт часу высякання слядкоў сярод навукоўцаў існуюць розныя меркаванні. Нагу, а тым больш ступню, звязвалі з іншасветам – падземным светам, куды ўсё сыходзіць, памірае, і адкуль ўсё вяртаецца, нараджаецца наноў.

Асабліва дзейснымі лекамі лічылі нашыя продкі дажджавую ваду са "слядкоў".

У вёсцы **Струбніца Мастоўскага раёна** каля ўвахода ў касцёл ляжыць камень са "Слядамі Святога Антонія". У дзень гэтага святога, 13 чэрвеня, каля касцёла адбываецца фэст. Пасля службы шмат хто з вернікаў імкнецца басанож ступіць у слядок святога. Людзі вераць, што менавіта ў гэты дзень ён валодае асаблівай сілай.

На ўскрайку **вёскі Леснікі Лідскага раёна** каля вялікага драўлянага крыжа таксама знаходзіцца камень-следавік. Яго ўшаноўваюць і лічаць лекавым ад многіх хвароб. На камені ёсць паглыбленне ў выглядзе чалавечай ступні. Мясцовыя кажуць, што гэта "след Божай Маці". Побач таксама невялікае паглыбленне ў выглядзе капытка нейкай жывёліны. Ваду, якая збіраецца ў іх, лічаць лекавай.

У лесе каля **вёскі Крамянец Лагойскага раёна** ляжыць Святы, Богаў ці Даждзьбогаў Камень. На Вялікдзень і на свята Іллі, 2 жніўня, вада са слядка, паводле павер'яў, лекуе ўсе хваробы. Калі дажджавой вады ў слядку не было, то яе зачэрпвалі ў студні, што была некалі побач, і налівалі ў слядкі.

Вада са слядкоў на камені, што ляжыць сярод поля каля **вёскі Сорагі Слуцкага раёна**, дапамагала ад усіх хвароб на Макавей, 14 жніўня, і на Пакроў, 14 кастрычніка. Мясцовыя людзі лячылі дажджавой вадой са слядкоў галаўны боль, хваробы вачэй, ліхаманку…

## Валуны-лекары

У вёсцы **Вялікі Поўсвіж Лепельскага раёна** людзі былі ўпэўнены, што іх камень дапамагае ад галаўнога болю, малярыі, знішчае барадаўкі, лекуе ад невідушчасці. І не толькі чалавека, але любую свойскую жывёлу.

У Беларусі здаўна верылі, што некаторыя валуны нібыта вылечвалі ад бясплоднасці. Так, да канца 1980-х гадоў на беразе Свіслачы ў Мінску, насупраць стадыёна "Дынама", на месцы былога капішча, якое мела назву "Малельня ля каменя", ляжаў камень Дзед.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя жанчыны, якія жадалі зацяжарыць, апярэзвалі валун фартухамі. Трэба было тры начы запар пасядзець на камені і пры гэтым прамаўляць замову. Каля каменя рос магутны дуб, жалуды з якога таксама лічылі лекавымі. Побач бруіла гаючая крынічка…



Сёння той культавы камень перанесены ў **Музей валуноў**, што ў мікрараёне Уручча. Мяркуючы па букецiках кветак і манетак на ім, валун і ў наш час не страціў сваёй папулярнасці.

Ад бясплоддзя, нібыта, лячыў і камень-следавік на ўзгорку **каля вёскі Сянежыцы Навагрудскага раёна.** Аднак у такой просьбе камень дапамагаў толькі на свята Пакроў. Непадалёк ад каменя ва ўрочышчы Святы роў бруіла святая крыніца. Тыя, хто прагнулі пазбавіцца ад хвароб і атрымаць адпушчэнне грахоў, ішлі на каленях ад каменя да крыніцы.

**У Воранаўскім раёне Гродзеншчыны каля вёскі Гарадзішча** ляжыць камень Вільціс. Такая назва ў перакладзе з літоўскай мовы азначае Надзея. Спрадвеку камень лічыўся жаночым. Згодна традыцыі, ён не толькі лячыў ад бясплоддзя, але і дапамагаў цяжарным жанчынам нарадзіць здаровае дзіця, а дзяўчатам спрыяў ва ўступленні ў добры шлюб. Пры наведванні каменя жанчыны спачатку дакраналіся да валуна і цалавалі яго, а потым звярталіся з просьбай. "За паслугі" валуну ахвяравалі лён, палатно, ручнікі, хусткі, вяночкі, грошы.

На ўзгорку пад назвай Прошча **каля вёскі Пярэжыр Пухавіцкага раёна** да канца 1930-х гадоў ляжалі два паклонныя камяні, якіх называлі Дзям'ян і Мар'я. Верылі, што яны вылечвалі паралюш, глухату, кульгавасць і шэраг іншых хвароб. Але камяні не толькі лекавалі розныя хваробы, але і спрыялі маладым у шлюбе. Лічылі, што найбольшай лекавай сілай камяні валодаюць на Маладзік і на Троіцу. Валунам ахвяравалі лён, палатно, масла, сыр, ручнікі… Дзяўчаты неслі ім каралі і завушніцы. Па ўспамінах старажылаў, аднойчы камень Мар'ю забралі на будоўлю і паклалі ў падмурак нейкага хлява. Далейшы лёс таго каменя невядомы. І куды пасля таго знік Дзям'ян таксама ніхто не ведае…

З некаторых валуноў нашы продкі здзіралі мох, настойвалі яго на вадзе ці на гарэлцы і пілі як лекі. А ў вёсках **Верасніца Жыткавіцкага і Раменкі Іўеўскага раёнаў** з камянёў шкрэблі парашок і лекаваліся ім.

Валун пад назвай Шалёны Камень і цяпер ляжыць ў паўночна-ўсходняй частцы вёскі **Малыя Грыдзюшкі Шаркаўшчынскага раёна**. Пры ўкусах шалёнага сабакі з яго таксама шкрэблі парашок і потым пілі з вадой. Паводле падання, ён не толькі пазбаўляў ад цяжкіх хвароб, але надаваў і фізічную сілу.

Яшчэ беларускі мастак Язэп Драздовіч у пачатку мінулага стагоддзя запісаў са слоў сваёй пляменніцы Ядвісі: "Во гэты Шалёны камень. Тут кажуць даўней прабягаў шалёны чалавек, упаў на гэты камень, дый пачаў яго грызці… Грыз, грыз аж датуль, пакуль не заснуў. А прачнуўся – аздаравеў. І цяпер, калі дзе каго шалёны сабака абкусае, з гэтага каменя на лекі кавалкі адбіваюць".

На могілках каля капліцы побач з вышэй згаданай **вёскай Кудзінавічы Капыльскага раёна** ляжыць вялікі камень з высвідраванай ямкай і барэльефнай выявай крыжа.

Камень мае шэраг назваў – Святы, Божы След, След Хрыста, След Божай Маці. Ад хвароб зубоў выкарыстоўвалі мох з гэтага каменя, яго наўпрост прыкладалі да хворага зуба. Зубны боль суцішваў і камень каля вёскі Бор, што непадалёк ад мястэчка Цітва Пухавіцкага раёна. Для гэтага трэба было дакрануцца зубамі да каменя.

Многія так званыя лекавыя камяні ў розныя часы былі перанесеныя ў храмы і капліцы. Некаторыя з іх захоўваюцца там і сёння.

Напрыклад, у **вёсках Лукава Маларыцкага, Калодзішчы Мінскага, Бабры Лідскага, Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёнаў.**

Прычына абагаўлення камянёў, вера продкаў у іх лекавую моц тлумачыцца іх спецыфічнымі якасцямі: цвёрдасцю, нязменнасцю, хімічнай інэртнасцю ў параўнанні з жывой прыродай. І дарэчы, гэта вера цалкам не пакінула нас і сёння.

**Людміла ДУЧЫЦ, Ірына КЛІМКОВІЧ.**

("Слушна")

Народная Воля http://www.nv-online.info 13 СТУДЗЕНЯ 2023 г.



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

з Алесем СІВЫМ

# Мясцовае шоу

Днямі ў Мінску ў Выканкаме СНД прайшло пасяджэнне працоўнай групы па падрыхтоўцы і правядзенні ў Беларусі ў 2023 годзе II Гульняў краін СНД.

*"Правядзенне гульняў запланавана з 4 па 14 жніўня ў 11 гарадах Беларусі на 20 відах спорту*, – заявіў намеснік старшыні выканкама СНД **Бекетжан Жумаханаў**. – *Хачу адзначыць, што сёлета органы Садружнасці на ўсіх узроўнях надалі асобную ўвагу пытанням падрыхтоўкі II гульняў краін СНД.*

*Разглядаюцца магчымасці запрашэння краін, якія не зʼяўляюцца сябрамі СНД. Цяпер прапрацоўваюцца пытанні па ўдзеле ў асобных відах спорту дэлегацый з Манголіі, Кітая, Кубы, Ірана, Амана і Саудаўскай Аравіі"*.

Увогуле, плануецца, што ў Гульнях СНД прымуць удзел дэлегацыі Беларусі, Азербайджана, Арменіі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Расіі, Таджыкістана, Туркменістана і Узбекістана.

Адным словам, кампанія можа сабрацца нядрэнная. Ва ўмовах ізаляцыі, калі беларускія спартсмены апынуліся на ўзбочыне міжнароднага спартыўнага жыцця, і такія Гульні за шчасце.

Мяркуючы па ўсім, удзел у Алімпіядзе нашым спартсменам не свеціць, і ўсім зразумела, што ў параўнанні з Алімпійскімі гульнямі гэтыя самыя Гульні краін СНД – не больш, чым вясковае шоу. Такі своеасаблівы міні-чэмпіянат СССР, які могуць разбавіць спартсмены з Манголіі, Кубы ці Ірана…

Тут варта ўспомніць, што каля сарака гадоў таму быў такі турнір, як "Дружба-84". Гэта была серыя міжнародных спаборніцтваў, якія праводзіліся ў чэрвені-верасні 1984 года ў дзевяці гарадах "сацыялістычнага лагера".

Напярэдадні стала вядома, што СССР выраашыў байкаціраваць Алімпійскія гульні ў Лос-Анджэлесе. У пастанове Палітбюро ЦК КПСС тады пра "спорт па-за палітыкай" не казалі: *"Лічыць нематэзгодным удзел савецкіх спартсменаў у Алімпійскіх гульнях у Лос-Анджэлесе з-за грубага парушэння амерыканскім бокам Алімпійскай хартыі, адсутнасці неабходных мераў забеспячэння бяспекі для дэлегацыі і разгорнутай у ЗША антысавецкай кампаніі"*.

Партыйныя і спартыўныя функцыянеры тады неадназова падкрэслівалі, што спаборніцтвы "Дружба-84" – гэта не альтэрнатыва Алімпіядзе, аднак усім было зразумела, што гэта своеасаблівы "наш адказ Чэмберлену".



Безумоўна, нельга праводзіць стопрацэнтныя паралелі паміж сёняшнімі Гульнямі СНД і "Дружбай-84", але, як не прыкра канстатаваць, сёння свет ізноў вяртаецца ў часы, калі спартсмены становяцца закладнікамі не толькі халоднай вайны.

*"Ва ўмовах ізаляцыі выхад з сітуацыі – ладзіць шоу, абʼядноўвацца краінамі і даваць сваю альтэрнатыву міжнароднай лёгкай атлетыкі*, – заявіла беларуская лёгкаатлетка **Анастасія Міронсчык-Іванова**. – *Абʼядноўвацца краінамі СНД, Кітай, Арабскія Эміраты. Калі будзе канкурэнцыя, калі будуць дзве сістэмы змагацца, то будзе канкурэнцыя. А ў канкурэнцыі нараджаюцца вынікі"*.

Невядома, каму будуць цікавыя такія вынікі і такія турніры, але, як кажуць, калі няма рыбы, то і рак – рыба. Тым больш, што за ўдзел у Гульнях СНД спартсменам штосьці і заплацяць. Можа быць, прызавыя будуць не такія вялікія, як за алімпійскія медалі, але ж лішняя капейка не пашкодзіць.

Важна толькі не падкідваць чэпчыкі ўгору з нагоды правядзення ў Беларусі "грандыёзнага спартыўнага форуму". Не трэба блытаць Алімпіяду з мясцовым шоу.

ЧУЛІ?

# Плюс 52 мільёны долараў…



Грошы выдзяляюцца ў адпаведнасці з патрэбай ўрада Беларусі як тэхніка-эканамічная дапамога "для папаўнення недахопу фінансавання" праектаў «Нацыянальны футбольны стадыён» і «Басейн міжнароднага стандарту», гаворыцца ў пагадненні.

Урады Кітая і Беларусі падпісалі гэты дакумент яшчэ 22 лістапада 2022 года, але апублікаваны ён толькі цяпер.

Нацыянальны футбольны стадыён узводзіцца непадалёк ад стадыёна «Трактар», а басейн – каля станцыі «Маладзёжная».

Не так даўно Аляксандр Лукашэнка таксама ўзгадваў пра гэтыя спартыўныя абʼекты: *"Мы з кітайцамі выбудоўваем добрыя адносіны. Яны нам бясплатна будуюць Нацыянальны футбольны стадыён… Лепш бы не будавалі, як яны (беларуская футбалісты) гуляюць… Яны будуюць басейн за свае грошы – гэта будзе супер! У бліжэйшы час закончаць"*.

Так і хочацца сказаць: бясплатны толькі сыр у мышалоўцы.



Кітай выдзеліў Беларусі дадаткова 350 мільёнаў юаняў (гэта амаль 52 мільёны долараў) на будаўніцтва ў Мінску Нацыянальнага футбольнага стадыёна і басейна міжнароднага стандарта.

Пра гэта гаворыцца ў міжурадавым пагадненні, апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Сяргей ЗАБЛОЦКІ.

РЕКОРДЫ

# Как заработать полмиллиарда евро?

Форвард сборной Португалии и «Аль-Насра» **Криштиану Роналду** получит 200 миллионов евро за продвижение заявки Саудовской Аравии на проведение чемпионата мира-2030.

За сезон в «Аль-Насре» нападающий будет зарабатывать около 200 миллионов евро с учетом коммерческих доходов. По данным AFP, это не все доходы, которые Роналду получит в Саудовской Аравии.

*«Роналду получит более 200 ммиллионов евро по контракту. Он станет амбассадором заявки Саудовской Аравии на чемпионат мира-2030, и за это ему заплатят еще 200 миллионов евро»*, – сообщил AFP источник, близкий к клубу.

В число участников борьбы за право на проведение ЧМ-2030 входит Португалия. Она подаст совместную с Испанией и Украиной заявку. Саудовская Аравия, как ожидается, сформирует заявку с Грецией и Египтом.

Напомним, что в прошлом месяце Криштиану Роналду официально стал футболистом «Аль-Насра».

Согласно ранее опубликованным инсайдам, Роналду подписал контракт до лета 2025 года. Португалец будет выступать за «Аль Наср» под любимым седьмым номером.



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



# Агонь падымецца вышэй, як стане дзед паліць мышэй

У хляве пенсіянера з вёскі Будоўля Магілёўскага раёна завяліся восы. Пазбавіцца ад іх стары вырашыў пры дапамозе паяльнай лямпы. У выніку цалкам згарэў хлеў і ледзь не занялася хата.

Благі настрой і побыт твой паганы,
Як завяліся дома прусакі
(А хто-ніхто гаворыць – тараканы)
І іх на кухні цэлыя палкі.
І рады нельга даць нахабнай плойме,
Труці паганцаў тых ці не труці:
Іх ні мыш'як, тым больш ні дуст не пройме.
Дый многа іншай набрыдзі ў жыцці!
Старому дакучалі, скажам, восы:
Павесілі "клубкі" свае ў хляве –
Там, дзе сумуюць граблі, вілы, косы
Па маладой няскошанай траве.
Лічыў стары: прыносяць восы шкоду,
Прынамсі, бескарысныя яны,
Бо не даюць, як сёстры-пчолы, мёду,
Жывуць як дармаеды ці паны.
Пры гэтым дзеда беднага, бывала,
Кусалі як галодныя ваўкі,
Нібыта ў іх не тоненькае джала,
А вострыя звярыныя клыкі!
Калі ж на дзеда гамузам дурніцы
Накінуцца, крый божа, у хляве,
Дык будуць ратаваць яго ў бальніцы,
І там, магчыма, дзед не ажыве.
Таму стары сабе паставіў мэту:
Патрэбна пакараць такое зло,
А значыць, злыдняў-восаў зжыць са свету,
Каб у хляве і духу не было!
І тут, само сабой, пытанне ўзнікла:
А як яму змагацца з гэтым злом?
Не выкурыш, як пчол з калоды, звыкла,
І не прагоніш палкай ці калом:
На дзеда наляцяць такая куча,
Што ён заенчыць:
– Божа барані!
А значыць, трэба дзейнічаць рашуча,
Каб шанцаў не пакінуць ім ані.
Калісь было вядома нашым продкам,
І цюкнула старому гэта ў скронь:
Для вынішчэння лепшым самым сродкам
З'яўляецца бязлітасны агонь.
Ажыццявіўся "план удалы" дзедаў,
Збылося ўсё, чаго стары хацеў:
Спаліў паяльнай лямпай "дармаедаў"!
Дарма, што папяліўшчам стаў і хлеў…

* * *

Здаецца мне, што большай будзе страта
І полымя падымецца вышэй:
Наступнаю згарыць у дзеда хата,
Бо ў ёй, гавораць, вельмі шмат мышэй…

**Бедных побач не будзе**

– Як толькі мільёны ў адну з латарэй
Я выйграю раптам, дык бедных людзей
Не будзе ўжо побач! –
Бажыўся нам ён. –
Бо я перааеду ў багаты раён…

**Не піва, дык шампанскае**

Дачцэ сказала мудрая кабета:
– Запомні назаўжды, дачушка, гэта:
З сябрамі не пускацьмеш жлукціць піва,
Дык з мужам вы не жыцьмеце шчасліва,
Бо ён жа спадціШка на старане
З жанкамі піць шампанскае пачне…

**Паплакала**

Сваёй "былой" задаў дзяцюк пытанне:
– Ты плакала хоць раз пасля расстання?
– Паплакала… Прычым не так даўно:
Як на нагу мне ўпала бервяно…

**Падставы для размовы**

"Прыедзь ка мне. Ёсць для размовы глеба".
А як расцэньваць запрашэнне трэба?
Калі сказаў мужчына тую фразу,
Гарэлку варта закупляць адразу;
Як ад жанчыны тая прапанова,
Дык грошы трэба браць абавязкова…

**Скарачаць дык скарачаць**

Урад беларускі паведаміў людзям:
– На адрас чыноўнікаў чуем праклёны.
Мы іх скарачаць – і бязлітасна! – будзем.
І людзі сказалі:
– Нясіце патроны….

УСМІХНІЦЕСЯ...

Максім пазычыў Віталю грошы на пластычную аперацыю і цяпер не можа яго знайсці.

***

Жанчына – гэта стварэнне, якое трэба кахаць. Не ўмееш кахаць – сядзі і сябруй!

***

– Чаму ты з ёю пасварыўся?
– Яна папрасіла адгадаць, колькі ёй гадоў.
– Ну і што?
– Угадаў!

***

Стаматолаг – пацыенту:
– Спакойна, Яўген, усё калі-небудзь бывае першы раз!
– Я не Яўген!
– Я ведаю. Гэта я сабе.

***

– Я ў цябе, як Папялушка, – гатую, мыю, прыбіраю.
– Я ж табе абяцаў, што, калі выйдзеш за мяне, – будзеш жыць, як у казцы.

НА ЗАМЕТКУ

# Когда убирать новогоднюю елку?

Новогодняя елка украшает дом на Новый год и Рождество. Когда праздники заканчиваются, становится актуальным вопрос: когда убирать елку? Кто-то выносит дерево сразу после праздников, а у кого-то дерево стоит в доме почти до весны. А как велит традиция?

Существует поверье, что елку следует оставить в доме на Старый Новый год 14 января, и только после этого её можно выносить. Считается, что если вынести вечнозеленую красавицу из дома до этой даты, то дерево «заберёт» с собой положительную энергетику из дома. Впрочем, такое убеждение является обычным суеверием и не подтверждено фактами.

Некоторые люди оставляют елку на Крещение Господне 19 января, и только после этого убирают. В этом есть логика, ведь именно этот праздник завершает Святки -- период зимних церковных праздников. На Крещение обычно в последний раз приглашают гостей на праздничный ужин, поэтому в доме можно оставить елку, чтобы все полюбовались деревом.

Впрочем, есть важное уточнение. В доме, где живут маленькие дети, аллергики или астматики, елку желательно убирать сразу после праздников. Потому что дерево и новогодние украшения накапливают много пыли.

Лилия ВОЛЧЕЦКАЯ.



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-onlir (017) 363-66-04

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ